Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 16 270.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Пятніца, 27 лютага 1998 г. № 19 Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### Суд над Лабковічам і Шыдлоўскім ператварыўся ў шоу

*Так лічыць Міжнародны Хельсінкскі камітэт па правах чалавека*

Міжнародны Хельсінкскі камітэт па правах чалавека (*Human Rights Watch*) выступіў з пратэстам супраць судзілішча над Аляксеем Шыдлоўскім і Вадзімам Лабковічам. Міжнародная праваабарончая арганізацыя лічыць, што суд ператварыўся ў звычайнае шоу, а вынесены прыгавор — насмешка над правасуддзем. Як адзначаецца ў заяве, *«галоўная мэта гэтага шоу — забараніць беларускай моладзі выказваць свой пратэст існуючаму рэжыму. У большасці краінаў, нават там, дзе толькі дэкларуецца вяршэнства закона, самае большае, чым могуць пакараць такіх юнакоў, — гэта папярэдзіць іх альбо накласці штраф».*

*«Беларусь усё болей і болей нагадвае Савецкі Саюз у яго найгоршых праяўленнях, у тым ліку і ў тым, што датычыцца рэпрэсіяў. Суд над Лабковічам і Шыдлоўскім яскрава даказвае гэта»,* — гаворыцца ў заяве *Human Rights Watch*.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

### Талкачова вярнулі. На чарзе Пашкевіч

**Патэлефанаваўшы ўчора ў прэс-службу адміністрацыі прэзідэнта, мы нечакана даведаліся, што Валерый Талкачоў *«тут ужо не працуе»*.**

Прэзідэнцкі прэс-сакратар вярнуўся «туды, адкуль прыйшоў» — у Мінскі педагагічны універсітэт. В.Талкачоў трапіў на прэзідэнцкую службу з пасады дацэнта, а вярнуўся ва універсітэт прарэктарам па вучэбнай рабоце і замежных сувязях.

Чарговыя кадравыя перастаноўкі ў прэзідэнцкай адміністрацыі, мяркуючы па ўсім, толькі пачынаюцца. Відавочна, што з Карла Маркса, 38 будуць «выстаўленыя» яшчэ некалькі чыноўнікаў. Наступным кандыдатам на перамяшчэнне называюць «удачлівага» Івана Пашкевіча, які займае пасаду намесніка кіраўніка адміністрацыі. Іван Пашкевіч спаўна адыграў сваю ролю ў «справе Шарамета» і цяпер ён практычна не патрэбны. Кажуць, што хістаецца крэсла і пад кіраўніком адміністрацыі прэзідэнта Міхаілам Мясніковічам. У кадравай управе адміністрацыі пакуль не называюць прэтэндэнтаў на перамяшчэнне. Мяркуючы па лёсе В.Талкачова, усе чыноўнікі будуць добра ўладкаваныя.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

*Назіральная група АБСЕ прыступае да працы ў Беларусі*

## АБСЕ: з чаго пачаць?

**Сёння ў Мінску адбудзецца афіцыйнае адкрыццё прадстаўніцтва Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе.**

З гэтай нагоды ў сталіцу Беларусі прыбывае дзеючы старшыня АБСЕ, міністр замежных справаў Польшчы Браніслаў Герэмэк. Старшыню суправаджаюць Генеральны сакратар АБСЕ Жанкарло Арагона, а таксама шэраг іншых высокапастаўленых асобаў. На цырымонію адкрыцця цэнтра АБСЕ запрошаны прадстаўнікі ўладаў і апазіцыі, грамадскія дзеячы і журналісты.

Падчас аднадзённага знаходжання ў Мінску Браніслаў Герэмэк сустрэнецца з прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам, міністрам замежных справаў Іванам Антановічам і, магчыма, з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам.

Напярэдадні візіту ў Мінск спадар Герэмэк заявіў журналістам: *«Мы павінны быць адкрытымі ў дачыненні да Беларусі, не пагаджацца на самаізаляцыю. Разам з тым мы не можам забывацца на асноўныя прынцыпы: правы апазіцыі на дзейнасць, свабода слова, свабода СМІ — гэта важны элемент міжнароднага ладу»*, — падкрэсліў Герэмэк.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

**Беларускі Народны Фронт звярнуўся да старшыні АБСЕ Браніслава Герэмэка з просьбай запатрабаваць ад беларускіх уладаў вызвалення ўсіх палітвязняў.**

На думку БНФ, *«прадстаўніцтва АБСЕ павінна абумовіць сваю далейшую прысутнасць у Беларусі і любыя кантакты з беларускім кіраўніцтвам безумоўным і неадкладным вызваленнем усіх палітычных вязняў. Гэта найперш 19-гадовы Аляксей Шыдлоўскі, засуджаны на паўтарагадовае зняволенне за надпісы на сценах, і 21-гадовы Вадзім Кабанчук, які ўжо паўгода знаходзіцца ў турме за ўдзел у дэманстрацыях»*, — гаворыцца ў звароце да старшыні АБСЕ.

Акрамя таго, Народны Фронт лічыць, што прадстаўніцтва АБСЕ павінна рашуча дамагацца ад пануючага ў Беларусі рэжыму выканання элементарных дэмакратычных нормаў: спынення палітычнага пераследу; скасавання ўсіх крымінальных і адміністрацыйных прысудаў і спынення справаў, вынесеных і ўзбуджаных супраць апанентаў рэжыму за палітычную і грамадскую дзейнасць; спынення пераследу незалежнай прэсы, адмены рашэнняў аб закрыцці газеты СВАБОДА і Радыё 101,2; стварэння плюралістычнай грамадскай наглядальнай камісіі нацыянальнага тэлебачання і радыё, якая забяспечыць роўны доступ палітычных сілаў да дзяржаўных электронных мас-медыя; адмены антыканстытуцыйных актаў, якія абмяжоўваюць свабоду слова, сходаў і дэманстрацыяў; спынення дыскрымінацыі беларускае мовы ў адукацыі і дзяржаўным сектары.

Толькі выкананне пералічаных вышэй умоваў, на думку БНФ, магло б стварыць умовы для правядзення ў Беларусі дэмакратычных выбараў. Усякія іншыя выбары пры дыктатуры заведама будуць антыдэмакратычным спектаклем і не павінны прызнавацца міжнароднай супольнасцю.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Браніслаў Герэмэк з першым візітам у Беларусь



**Браніслаў Герэмэк (на здымку) — міністр замежных справаў Польшчы. З 1 студзеня 1998 г. — дзеючы старшыня АБСЕ.**

*Нарадзіўся 6 сакавіка 1932 г. у Варшаве, скончыў гістарычны факультэт Варшаўскага універсітэта. У сярэдзіне 60-х атрымаў 3-гадовую навуковую стыпендыю ў Ecole Pratique des Hautes Etudes (Парыж), у сярэдзіне 70-х — 2-гадовую стыпендыю ў ЗША. У 1960 г. абараніў дысертацыю і атрымаў ступень доктара навук, з 1989 г. прафесар. У 1955—1960 і ў 1965—1980 гг. працаваў у якасці навуковага супрацоўніка ў Інстытуце гісторыі ПАН, у 1962—1965 выкладаў у Сарбоне (Парыж). На працягу 15 гадоў кіраваў навуковай лабараторыяй культуры Сярэднявечча, у 1985 г. быў звольнены па палітычных матывах; у далейшым быў рэпрэсіраваны (арышты, вобыскі, адмовы ў выездзе за мяжу). З першых дзён зараджэння «Салідарнасці» і на працягу многіх гадоў быў экспертам і дарадцам незалежнага прафсаюза, стаяў на чале групы дарадцаў лідэра прафсаюза Леха Валенсы. Удзельнік Круглага стала (1989 г.). Абіраўся дэпутатам Сейма РП 1-й, 2-й і 3-й кадэнцыі. На працягу дзвюх кадэнцыяў Сейма ўзначальваў парламенцкую камісію замежных справаў (1991—1993 і 1993—1997). З'яўляецца членам польскага і французскага PEN-Клуба.*

### Антановіч казаў праўду

**Не так даўно міністр замежных справаў Беларусі Іван Антановіч казаў, што некалькі еўрапейскіх краінаў праяўляюць зацікаўленасць у далучэнні да Саюза Расіі і Беларусі. Першы сігнал ёсць.**

Як паведамляе Інтэрфакс, так званы Саюз абаронцаў Прыднястроўя звярнуўся да Аляксандра Лукашэнкі і Барыса Ельцына з просьбай аб уваходжанні ў Саюз. У дакуменце сцвярджаецца, што толькі ўступленне Прыднястроўя ў гэтую арганізацыю можа быць гарантам бяспекі і адзіным прымальным варыянтам урэгулявання прыднястроўскага канфлікту.

Дзеячы незаконна абвешчанай Прыднястроўскай рэспублікі працягваюць перамовы з Кішынёвам наконт вызначэння афіцыйнага статусу Прыднястроўскага рэгіёна, але яўна не намераны вырашаць канфлікт цывілізаваным шляхам.

**М.Н.**

### Вандалізм у цэнтры Мінска

*Акт вандалізму быў учынены на гэтым тыдні на Вайсковых могілках у Мінску*

Невядомыя злачынцы апаганілі 49 пахаванняў савецкіх воінаў часоў Другой сусветнай вайны і цывільных грамадзянаў. Па словах работнікаў гарадской камунальнай службы, якія даглядаюць магілкі, раніцай пасля святкавання Дня Узброеных Сілаў яны налічылі 12 вырваных з зямлі крыжоў і перавернутых надмагільных плітаў, а наступнай ноччу было разбурана яшчэ 37 помнікаў. Супрацоўнікі Савецкага райаддзела міліцыі лічаць, што злачынства здзейсніла хутчэй за ўсё падлеткі-хуліганы і ніякага палітычнага падтэксту ў гэтай справе няма. Будзем спадзявацца, што распачатае следства выявіць сапраўдных злачынцаў.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

### Ці пашанцуе гэтаму хлопчыку?

**У Бабруйску маладая жанчына, заражаная вірусам СНІДу, нарадзіла дзіця.**

Пакуль яшчэ дакладна невядома, ці перадалася інфекцыя нованароджанаму. Медыкі назіраюць за хлопчыкам. Першыя аналізы на ВІЧ-інфекцыю далі адмоўныя вынікі, але ўсё роўна ёсць высокая рызыка таго, што вірус перадаўся сыну ад маці. Існуе таксама небяспека заражэння праз грудное малако.

Бабруйск у Магілёўскай вобласці — самы небяспечны горад у плане СНІДу. Тут зафіксавана 27 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі. Прычым толькі 5 чалавек заразіліся полавым шляхам, астатнія — праз брудныя шпрыцы пры ін'екцыі наркотыкаў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

*Сацыялагічнае апытанне*

### Што трывожыць беларусаў

**Найбольшую трывогу ў жыхароў нашай краіны выклікаюць нізкі ўзровень жыцця, крыміналізацыя грамадства і наступствы чарнобыльскай катастрофы.**

Як паказала апытанне жыхароў нашай краіны, праведзенае Інстытутам сацыялогіі Акадэміі навук, найбольшую трывогу выклікае нізкі ўзровень жыццезабеспячэння і зніжэнне рэальнай заработнай платы (78,9% апытаных). Колькасць людзей, у якіх матэрыяльнае становішча не выклікае заклапочанасці, склала толькі 3,4%!

Другое месца сярод фактараў, якія выклікаюць трывогу ў людзей Беларусі, займае рост злачыннасці (74,5%). Прычым крыміналізацыя грамадства непакоіць у аднолькавай ступені як «багатых», так і «бедных». Наступствамі аварыі на Чарнобыльскай АЭС сур'ёзна заклапочаны 74,2% рэспандэнтаў, у некаторай ступені — 21,6% і толькі 3% апытаных ніяк не хвалююць наступствы чарнобыльскай катастрофы.

*БелаПАН*

### У Старавойтава інсульт

**Былы старшыня «Рассвета» Васіль Старавойтаў, які ўжо больш за тры месяцы ўтрымліваецца ў следчым ізалятары КДБ, перажыў мікраінсульт.**

Па словах адвоката Валерыя Ярчака, Старавойтаў траціў прытомнасць, не мог рухацца і гаварыць, ён просіць, каб ягоны стан здароўя абследаваў акадэмік Ігнацій Антонаў.

Адвакат раславёў нам, што В.Старавойтаў моліцца па тры гадзіны на дзень. Валерый Ярчак мяркуе, што да пачатку сакавіка былога старшыню «Рассвета» выпусцяць з камеры, бо «ўсе следчыя дзеянні скончаныя».

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Еўрапейскія дэмакраты – за дэмакратыю ў Беларусі

**«Аўтарытарны рэжым Лукашэнкі дэманстратыўна ігнаруе пазіцыю еўрапейскай супольнасці», — гаворыцца ў заяве, прынятай удзельнікамі міжнароднай канферэнцыі «За дэмакратыю ў Беларусі».**

Канферэнцыя праходзіла ў Вільні 21—22 лютага. Яе ладзіў Еўрапейскі дэмакратычны саюз — арганізацыя, якая аб'ядноўвае шэраг ліберальных і кансерватыўных партыяў Еўропы, многія з якіх з'яўляюцца ў сваіх краінах правячымі (напрыклад, у Францыі і Нямеччыне).

Нашую краіну, праблемам якой і была прысвечаная канферэнцыя, прадстаўляла Аб'яднаная грамадзянская партыя (16 дэлегатаў). Яны падрабязна распавялі пра палітычную і эканамічную сітуацыю ў Беларусі, пра масавыя парушэнні правоў чалавека, палітычныя рэпрэсіі, арышты і штрафы. Генеральны сакратар Еўрапейскага дэмакратычнага саюза Алексіс Вітаньяк паведаміў, што ў сакавіку—красавіку гэтага года ў ЕДС будзе створаны спецыяльны сектар па аналізе сітуацыі ў Беларусі.

У выніковай заяве, якую падпісалі прадстаўнікі ўсіх партыяў, што ўзялі ўдзел у канферэнцыі, выказаная «сур'ёзная заклапочанасць сітуацыяй у Рэспубліцы Беларусь». У заяве зазначаецца, што «парушэнні правоў чалавека ў Беларусі набылі масавы характар» і што «рэжым Лукашэнкі ідзе на самаізаляцыю ў Еўропе».

Удзельнікі канферэнцыі выказалі салідарнасць «з дэпутатамі Вярхоўнага Савета В.Кудзінавым і А.Клімавым, а таксама з маладымі людзьмі В.Лабковічам, А.Шыдлоўскім і В.Кабанчуком, якія сталі ахвярамі палітычнага пераследу з боку рэжыму ў Беларусі».

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Шарамета – у лаўрэаты

**Кіраўніцтва ОРТ вылучыла кандыдатуру Паўла Шарамета на атрыманне штогадовай расійскай тэлевізійнай прэміі «ТЭФІ» ў намінацыі «Лепшы рэпарцёр года».**

Журы, якое ўзначальвае вядомы расійскі тэлежурналіст Уладзімір Познер, ужо прыступіла да прагляду каля дзесяці тысячаў відэакасет з матэрыяламі, прадстаўленымі на конкурс шэрагам тэлекампаніяў. Звычайна прэмія «ТЭФІ» прысуджаецца больш чым па 10 намінацыях і з'яўляецца ў Расіі вышэйшай прафесійнай узнагародай для тэлежурналістаў.

Як нам паведаміў Павел Шарамет, для яго самога вылучэнне ягонай кандыдатуры на атрыманне прэміі было прыемнай нечаканасцю. Павел разумее, што яму давядзецца супернічаць з лепшымі тэлерэпарцёрамі Расіі, аднак ён спадзяецца перамагчы і стаць першым прадстаўніком ОРТ — лаўрэатам «ТЭФІ» ў гэтай намінацыі. Раней лепшымі рэпарцёрамі неадназрова прызнаваліся журналісты НТВ.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# «Злосны хуліган» Лабковіч

***У аўторак 16-гадовы мінскі школьнік Вадзім Лабковіч быў выпушчаны з-пад варты з прысудам 1,5 года ўмоўнага зняволення з выпрабавальным тэрмінам 2 гады за злоснае хуліганства. Гэтак суд пакараў Вадзіма за ўдзел у распісванні Стоўбцаў антыпрэзідэнцкімі лозунгамі, замену дзяржаўнага сцяга на бел-чырвона-белы і размалёўванне помнікаў Леніну і Дзяржынскаму. Сваё першае ў жыцці інтэрв'ю Вадзім ЛАБКОВІЧ даў нашай газеце.***



*Сябры падхапілі Вадзіма Лабковіча на рукі адразу, як ён выйшаў з суда. Фота С.Чырыка (Беларуская маладзёжная).*

**— Вадзім, ці спадзяваўся ты выйсці на волю? І ўвогуле, як ты ацэньваеш вынесены табе і Аляксею Шыдлоўскаму прысуд?**

— Была мара пра волю, але ўпэўненасці не было. Разумееш, што ў мяне ёсць шанц — усё ж я непаўналетні, калі б мяне пасадзілі, гэта была б незмывальная пляма на твары рэжыму. Але на сумленні гэтага рэжыму ўжо столькі грахоў, паламаных лёсаў, што лёс яшчэ аднаго чалавека для іх нішто. Таму са мной магло быць тое ж, што з Аляксеем. Вельмі балюча, што яго няма цяпер побач. Вынесены яму прысуд — гэта вялікая несправядлівасць. Мы будзем змагацца за яго вызваленне.

**— Табе самому дагэтуль пагражае турма. Каб цябе пасадзіць, дастаткова нават таго, што ты пяройдзеш вуліцу ў нявызначаным месцы.**

— Не думаю пра гэта цяпер. Я рады, што бачу маці, браціка Валерку, бабулю, што побач сябры, проста ветлівыя твары, а не твары ахоўнікаў.

**— Няўжо яны такія непрыемныя?**

— За 6 месяцаў я пабываў у трох ізалятарах — Стаўбцоўскім, Жодзінскім і на Валадарцы ў Мінску. З большага ахоўнікі ставіліся да мяне нармальна, але ж вы павінны разумець, што нармальна — гэта па мерках ізалятара. Калі вам на вуліцы загадаць раптам: «Маўчаць! Рукі за спіну!» — як вы да гэтага паставіцеся? А ў турме такое абыходжанне — узор ветлівасці. Што аб'ядноўвала маіх турэмшчыкаў — гэта абсалютнае неразуменне, за што мяне арыштавалі. Яны рагаталі, калі дазнаваліся пра змест некаторых надпісаў, што мы пакінулі ў Стоўбцах.

**— Пры тваёй упартасці ў турме ты проста павінен быў нарвацца на непрыемнасці.**

— Мне дапамагала тое, што я «палітычны», ды яшчэ непаўналетні. А вось Аляксея Шыдлоўскага ў Жодзінскім СІЗО збівалі. Ён заяўляў пра гэта і падчас следства, і на судзе, але суддзя Лаўроў чамусьці ніяк не адрэагаваў. А тое, як збіваюць вязняў, я чуў ад сукамернікаў і нават сам назіраў. Падлеткаў выводзяць у калідор і б'юць рамянямі, дарослых — дубінкамі і кулакамі. Чапляюцца да нечага і б'юць. А хто іх пракантралюе?

**— А да цябе чапляліся?**

— Было адзін раз. У мяне пад матрацам знайшлася завостраная ручка ад кружкі. Дагэтуль не ведаю, хто з сукамернікаў яе падкінуў. Пакаралі мяне — пазбавілі перадачы, а маглі і ў карцэр адправіць. Але ў турме застацца без харчоў — рэч непрыемная.

**— Дрэнна кармілі?**

— Вада з бульбай ці нейкая незразумелая каша. А ў Жодзінскім СІЗО дык яшчэ і хлеб вельмі дрэнны.

**— Ты, кажуць, захварэў?**

— Сэрца стала ныць пастаянна. Страўнік баліць.

**— Няўжо ніяк не лячылі?**

— Якое турэмнае лячэнне?! Доктар дае табе дзве паловы адной таблеткі: гэтая палова ад галавы, гэтая — ад страўніка. Глядзі, не пераблытай...

**— Бачу, ты шмат уражанняў атрымаў. А з кім давялося сядзець?**

— Новых знаёмых хапіла. Толькі ў Жодзінскім СІЗО я змяніў восем камер. Там метода такая, усе «вандруюць». Сядзеў у асноўным з непаўналетнімі злодзеямі. Мяне цікавіла, чаму яны сталі красці. Высветлілася, што большасць крадзе не па прычыне прыродных схільнасцяў, а таму што жыць неяк трэба. Многія трапілі ў турму з-за гарэлкі, ужо без яе не могуць. Яшчэ нармальныя хлопцы, нават добрыя, а ўжо быццам атручаныя. Не пазайздросціш ім.

**— Ты разважаеш, як чалавек з багатым жыццёвым вопытам. Гэта для цябе натуральна?**

— Не зусім, канешне. Мне, праўда, даволі рана прыйшлося па-сапраўднаму дапамагаць маці, глядзець за малодшым братам. Але, відаць, гэта не галоўнае. Час напэўна такі.

**— Якія твае бліжэйшыя планы?**

— Паспрабую дагнаць праграму 11-га класа і скончыць школу разам з аднакласнікамі. А яшчэ трэба нешта рабіць, каб дапамагчы Аляксею. Гэта ж была мая ініцыятыва размаляваць Стоўбцы, таму я адчуваю сябе вінаватым і не супакоюся.

*Гутарыў* **Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

### *Заробкі*

**Самымі высокааплатнымі ў 1997 годзе былі работнікі прадпрыемстваў трубаправоднага транспарту (іх заробак у 1997 годзе складаў 5,44 мільёна рублёў у месяц), а таксама банкаў, міжгаліновых органаў гаспадарчага кіравання і мытняў — у гэтых галінах заробкі ўдвая і больш разоў перавышалі сярэднія па краіне. У паўтара-два разы менш, чым сярэднестатыстычны працаўнік, атрымлівалі работнікі сельскай гаспадаркі, культуры і мастацтва, сацыяльнага забеспячэння.**

### *Даўгі*

**За першы месяц 1998 года агульная сума запазычанасці па заработнай плаце дасягнула 953,6 мільярда рублёў, павялічыўшыся з пачатку года на 748,6 мільярда. 65% гэтага доўгу прыпадае на калгасы і саўгасы.**

### *Пенсіі*

**Сярэдні памер пенсій у студзені 1998 склаў 1 млн. 238 тыс. рублёў — гэта толькі 65% ад велічыні мінімальнага спажывецкага бюджэту пенсіянера, разлічанага афіцыйнымі органамі.**

*БелаПАН*

# Шчукін паляпшае свой рэкорд

*Паляванне на дэпутата Шчукіна, відаць, стала для сталічнай міліцыі стратэгічнай задачай*



*Валерыя Шчукіна міліцыянты сілай зацягнулі ў машыну, схапіўшы яго каля будынка Мінскага абласнога суда. Фота С.Чырыка (Беларуская маладзёжная).*

У сярэдзіне 80-х, пасля таго, як за кароткі тэрмін сканаў цэлы шэраг партыйных бонзаў, з'явіўся анекдот. На тэлеэкране — дыктар у чорным касцюме журботным голасам паведамляе: «Паважаныя таварышы! Вы, канешне, будзеце вельмі смяяцца, — але Канстанцін Усцінавіч Чарненка таксама памёр!» Дык вось, я ўжо не ведаю, смяяцца тут ці плакаць, — але дэпутата Валерыя Шчукіна зноў затрымалі!

Гэта адбылося ў аўторак, калі Шчукін разам з іншымі сустракаў каля будынка суда Вадзіма Лабковіча. Якому міліцэйскаму ці іншаму начальніку ў кемлівую галаву ўляцела арыгінальная думка, што сустрэчу вызваленага з-пад варты вязня можна прыраўняць да несанкцыянаванага сходу? На гэтае пытанне ў Ленінскім РАУС, супрацоўнікі якога ажыццяўлялі затрыманне, адказваць катэгарычна адмовіліся. Магчыма, гэта стане вядома падчас суда над Шчукіным, які адбудзецца 27 лютага. Акрамя «ўдзелу ў несанкцыянаваным мітынгу», Шчукіну інкрымінуецца і «супраціўленне супрацоўнікам міліцыі». Апошняга, дарэчы, дэпутат не адмаўляе — па яго словах, ён сапраўды супраціўляўся, «таму што ніякіх падставаў для затрымання не было, бо не было ніякага сходу — і наогул дэкрэтам Лукашэнкі і рашэннем «палаты» я не падпарадкоўваюся, паколькі яны неканныя», — заявіў Шчукін.

Пасля суда, трэба думаць, агульная сума штрафаў, што «вісяць» на Шчукіне, яшчэ павялічыцца. Хаця і без таго яна з'яўляецца рэкорднай, і выплаціць яе Валерый Аляксеевіч не змог бы нават у тым выпадку, калі б у яго з'явілася такое дзіўнае жаданне.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## За падтрымку б'юць і штрафуюць

**Схопленыя ў сераду каля будынка Мінскага абласнога суда, дзе праходзіў працэс над Лабковічам і Шыдлоўскім, сябры Маладога Фронту атрымалі штрафы ў некалькі мільёнаў рублёў.**

21-гадовага студэнта Беларускага аграрна-тэхнічнага універсітэта Вадзіма Канапацкага суддзя Мінскага райсуда Церашкова вырашыла пакараць 5 мільёнамі рублёў толькі за тое, што, па словах двух сведкаў-міліцыянтаў, Вадзім прайшоўся па ганку Мінскага абласнога суда з закладзенымі за галаву рукамі. Маладафронтавец Віталь Алесіёнак аштрафаваны на паўтара мільёна.

Загадчыку канцылярыі ўправы БНФ 50-гадоваму Уладзіміру Юхо, які спрабаваў заступіцца за хлопцаў і быў жорстка збіты амонаўцамі, уручана судовая павестка на 4 сакавіка. Дарэчы, сп.Юхо атрымаў у пракуратуры Ленінскага раёна сталіцы накіраванне на судмедэкспертызу, і лекары ўжо зафіксавалі шматлікія цялесныя пашкоджанні, якія нанеслі яму раз'юшаныя «ахоўнікі парадку». Юхо мае намер дамагчыся ўзбуджэння крымінальнай справы супраць гэтых міліцыянтаў.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

### *Ліст чытача*

Шаноўная рэдакцыя! Летась я быў сведкам, як у Мінску замазвалі лозунгі «Жыве незалежная Беларусь!» на вуліцы Арлоўскай. На той агародцы будаўнічай пляцоўкі засталіся брудныя плямы. Такія ж плямы можна назіраць і ў іншых месцах Мінска, дый не толькі сталіцы. Пад імі — замазаная любоў да Беларусі.

А вось іншыя надпісы, камбінацыі з трох і крыху больш літар, рознае хамства і брыдота часта застаюцца незафарбаванымі. Такі «вернісаж», напрыклад, знаходзіцца на праспекце Ракасоўскага, каля Дома інвалідаў. Гэтая «выстава» займае месца 15-20 метраў у даўжыню, стаіць там больш за два гады і пастаянна папаўняецца. Такое паскудства назіраюць сотні, нават тысячы людзей — і нікога гэта не хвалюе.

Супастаўляючы факты, я зрабіў для сябе адназначную выснову, што Шыдлоўскага і Лабковіча асудзілі за беларускі патрыятызм. Лозунгі тыпу «Бей волосатых!», што выдзяляюцца на той сцяне па праспекце Ракасоўскага, нікога не хвалююць. Тым часам лозунгі «Жыве незалежная Беларусь!» выклікаюць лютую злосць «інтэгратараў». Робім вывад: Беларусь любіць забараняецца, «бить волосатых» — можна. А лысых — таксама можна?

Я хачу выказаць салідарнасць з Шыдлоўскім, Лабковічам і Кабанчуком. Мужныя хлопцы падалі галасы ў абарону свайго ж, роднага. Менавіта гэта і выклікае ў мяне павагу. Я не хачу ацэньваць іхнія метады: у сённяшніх абставінах, магчыма, іншых метадаў не існуе.

Хачу, каб мяне зразумелі правільна: я не супраць дружбы нашай краіны з Расіяй. Я супраць халуйскага варыянта адносінаў.

**Аркадзь АПАНАСЁНАК,** *50 гадоў, г.Мінск*

ДАГЕРРОТИП

Семен БУКЧИН

# Человек у бортика

Где место белорусского правителя, раз уж он собственной персоной прибыл на Олимпиаду в Японию? Правильно: у бортика хоккейной площадки. Именно там, в спортивной шапочке, с шарфиком — ну чистый болельщик! Он должен непосредственно руководить полетом шайбы к вражеским воротам. Это другие президенты отсиживаются дома, а если и завернут на Олимпиаду, то как бы по пути, на пару часов изменив маршрут официального государственного визита.

А наш правитель, как известно, человек прямой и простой. Нет государственного визита, не приглашали к себе японцы? Ну и что? Даром что ли сделал Он себя председателем Национального олимпийского комитета? Самолет опять же свой! Денег, долларов этих самых, — как грязи. Так отчего бы и не захватить с собой десяток-другой верных людей, да и не пожить почти полмесяца в шикарных апартаментах в Нагано, не попытаться поруководить спортом, так сказать, в мировых масштабах? К следующей Олимпиаде такая халява может и не выпасть... Поэтому надо пользоваться случаем. Это, с одной стороны. Хотя есть и планы более масштабные...

Отчет об этой славной командировке у него, Главного Олимпийца страны, никто, разумеется, не посмеет потребовать. Тем более, кому же неизвестно, что ездил Он не развлекаться, а работать. Изучать передовой спортивный опыт Японии. После чего, естественно, внедрять у себя будет. Потому что спорт — это самое главное в нашей жизни! Мы и вымираем, как народ, потому что мало спортом занимаемся. И вообще, спортсмены — это самые лучшие люди! В экономике. В дипломатии. В любой сфере! Спортсмену, ему ведь что важно? Хорошую установку дать! Дал правильную установку, и вот он уже пилит по лыжне, ни о чем другом не раздумывая. Спортсмен — человек приказа. Нерассуждающий. Поэтому Он так любит их.



*Олимпиада принесла меньше медалей и радости, чем рассчитывал президент НОК. Теперь каждый должен получить свое: избранные — пряник, а большинство — кнутом, кнутом...*

В Нагано Главный Олимпиец Беларуси приобрел действительно бесценный опыт. Во-первых, Он лично убедился, как всесильна спортивная мафия. Это ведь она организовала плохую погоду для наших биатлонистов, заставив их все-таки бежать и стрелять. А когда увидела, что Его человеку светит золото, взяла да и прекратила соревнования. Ну скажите, в самом деле, разве *они* могут дать золото спортсмену, выступающему от имени Главного Интегратора белорусско-российского Союза? Да ни за что на свете!

А с другой стороны, враг явно прокрался в Его олимпийскую команду. Всего две бронзовые медали! Разве за этим он летел в Японию? А какие костюмы пошили для олимпийцев! Сколько деньжищ вбухали на их подготовку! Наконец, Его личный приезд — это ведь не хиханьки-хаханьки! Это обязывало, черт побери!

Конечно, доказать, что только две бронзовые медали — это результат совместного заговора Пазьняка, Богданкевича и Карпенко, — сложно. Но вот я лично думаю, что арестовать парочку-другую тренеров будет полезно. Народ как-то уже привык к арестам оппозиционеров, банкиров, журналистов, предпринимателей... Аресты в спортивной среде должны всем показать, что ни одна сфера жизни не остается без Его внимания. Собственно, Он еще в Нагано пообещал разобраться дома с кем надо... И теперь остается только выполнить обещание. Люди, которые поедут на следующую Олимпиаду, должны знать — либо медаль, либо наказание. Третьего не дано.

Сталин после проигрыша ЦСКА, кажется, в Югославии расформировал «команду лейтенантов». И что же после этого? Наш футбол только выиграл, стал еще лучше! Конечно, Сталину было обидно, что проиграли его врагу Тито. Наш Главный Олимпиец, безусловно, не враг императору Хирохито. Но авторитет-то главы государства нужно поддерживать! Ведь что сказано в Олимпийской Хартии? Что олимпийские соревнования — это не борьба стран и народов, а соперничество личностей. И вот Его личность оказалась в проигрыше. Кто-то должен ведь за это ответить! Конечно, кое-кто из недоброжелателей может сказать, что первейшую ответственность должен нести председатель Национального Олимпийского комитета. Выходит, Он должен сам себя наказать? Снять с должности, что ли?

Ну это уж дудки! Парочку-другую тренеров под суд — это неплохо, конечно, но жидковато... Нужен большой показательный процесс! Обязательно с участием оппозиции! Одна чистая сфера у нас оставалась — спорт, и туда уже грязные руки этих соросовских прихлебателей добрались!

«Всех — на рудники!» — эту крылатую фразу наш Главный Олимпиец произнес уже во Владивостоке, заслужив, как сообщает «Комсомольская правда», благодарные аплодисменты таможнего губернатора. Полагаю, что этот призыв следует толковать в максимально расширительном смысле. На этих самых рудниках и разным «дерьмократам», и плохим спортсменам, и тренерам место найдется.

Вообще в Приморье «человек у бортика», что называется, вошел в раж и его понесло. В «городе нашенском», на берегу бухты Золотой Рог, этого восточного рубежа империи, сердце забилось сильнее, голова закружилась, Он представил себя уже властителем необъятного пространства от Владивостока до Бреста и, соответственно, зазвучало-полилось: «Мы ведь русские люди!», «Наш флот!», «Мы занимаем одну шестую часть суши!»

А когда прибыл на крейсер «Варяг», вероятно, показалось, что это и не «Варяг», а сама «Аврора». И сейчас прозвучит залп... И вот Он под звон колоколов уже въезжает на белом «Линкольне» в Кремль.

А вы еще спрашиваете, зачем в Японию ездил, народные деньги тратил? Это сначала человек в шапочке стоит у бортика, команды хоккеистам подает, тренеров уму-разуму учит. И вот Он уже на палубе «Варяга»! И звучит под аплодисменты: «Мы — русские люди!» А с русскими людьми, да с нашим флотом на одной шестой части суши такие дела завернуть можно...

# Власти нуждаются в объективной информации

*Так считает профессор-социолог. У самих же властей, судя по их действиям, на сей счет иное мнение*

***Одной из главных составляющих внутренней политики белорусских властей стал неустанный поиск врагов. Дело депутата А.Климова — последнее тому подтверждение. Однако «врагами народа» становятся отнюдь не только политические противники режима. Общеизвестно негативное отношение властей к предпринимателям, можно сказать, как к классу. Многие независимые аналитики бьют тревогу из-за наступления государства на «третий сектор» (т.е. неправительственные организации, пусть даже лишенные политической направленности). О независимых СМИ и говорить нечего — определения «негосударственная» и «оппозиционная» в отношении прессы давно уже стали синонимами. То есть любая деятельность, не подпадающая под прямую зависимость от государства, а также любая свободная мысль воспринимаются диктатурой как нечто чуждое и враждебное.***

***Недавно в ряде белорусских государственных СМИ была развернута кампания против Независимого института социально-экономических и политических исследований (НИСЭПИ). Предметом кампании был доклад директора института Олега Манаева «Состояние и перспективы развития независимых СМИ в Беларуси». В общих чертах: Манаеву ставится в вину то, что он констатировал тяжелое материальное положение независимых СМИ в Беларуси и отметил, что они нуждаются в финансовой помощи. При этом — о, ужас! — в докладе профессора Манаева упоминается слово «бизнес-план», что, по мнению бдительной «Народной газеты», служит неоспоримым доказательством того, что «журналистское расследование» телепрограммы «Резонанс» насчет некоего мифического «бизнес-плана» оппозиции имеет под собой почву. Видимо, понятие «бизнес-план» в любом контексте вызывает отрицательный рефлекс.***

С профессором Олегом МАНАЕВЫМ беседует наш корреспондент

**— Почему ваш научный доклад стал объектом столь пристального внимания государства?**

— На мой взгляд, прежде всего именно потому, что он сугубо научный. Многие говорят о том, что независимые СМИ, с одной стороны, находятся в тяжелом положении — а с другой стороны, пользуются определенным влиянием. Но одно дело, если это просто суждения, пусть себе и компетентных людей, а другое — результат научных исследований. Когда люди, структуры, группы, которые заинтересованы в поддержке независимых *mass-media* (на Западе, на Востоке или в нашей собственной стране), получают научно обоснованные аргументы — это звучит гораздо убедительнее. Научные исследования очень четко показывают, каким образом осуществляется давление на независимые СМИ, реальную роль независимых *mass-media* в Беларуси и другие аспекты.



*Олег Манаев.*

В частности, в моем докладе, содержавшем анализ результатов наших многочисленных исследований НИСЭПИ, было показано трудное положение, в котором оказались негосударственные СМИ в нынешней Беларуси. Доказывалось, что, несмотря на это, их влияние на белорусское общество, в отличие от многих государственных институтов, не уменьшается, а, наоборот, увеличивается. Причем, в отличие от большинства государственных, независимые СМИ формируют у своей аудитории демократическое, рыночное сознание, ориентированное на европейские стандарты жизни, а не на возврат в СССР. В заключительной части доклада предлагались рекомендации для международных организаций, заинтересованных в поддержке независимых СМИ в Беларуси.

Я хочу подчеркнуть, что доклад вовсе не рассылался «во многие демократические организации», как было указано в «Знамени юности». В полном виде он был передан только зарубежным коллегам, которые попросили меня его подготовить. На самом деле доклад был попросту выкраден (кем, думаю, догадаться нетрудно) и передан тем, кому поручили раскручивать «дело о заговоре». Доклад в целом написан для того, чтобы вся независимая демократическая пресса Беларуси получила международную поддержку.

**— Однако именно за это ваш институт поставили чуть ли не на одну доску с политической оппозицией.**

— Наш институт, как и большинство исследовательских центров, никогда не ставил перед собой политических целей. Но еще в советские времена постоянно использовалась следующая практика: если властям нравились результаты исследований — они мгновенно их использовали, широко публиковали и цитировали. Как только результаты противоречили линии власти — они клались под сукно, а исследователи подвергались гонениям. Ситуация не изменилась и сегодня. Известны факты, что когда результаты исследований НИСЭПИ, с точки зрения властей, были им на руку — они широко цитировались, нас приводили в пример как серьезных и объективных ученых. Сейчас, когда результаты «не в жилу» властям — они развязывают против нас вот такую кампанию. Это типичный подход, который используется по отношению не только к нам, но и к другим исследовательским центрам.

**— В этом плане властям с независимыми центрами, конечно, сложнее, чем с государственными. Последним можно просто напрямую заказать удобные результаты.**

— Да. Этот принцип остается таким же, как при коммунистическом режиме. Где же общество черпать объективную информацию о своем собственном состоянии?

Любые власти, которые хоть немножко думают о будущем, должны быть заинтересованы в информации, которая отражает объективное положение дел, — в том числе и о настроении в умах граждан. Информация, которую руководство получает по своим каналам, определенным образом отфильтровывается, упаковывается и подается в том виде, в котором, по мнению разработчиков, это руководство хочет видеть мир. Но даже из чисто прагматических соображений власти должны владеть объективной информацией. Источников такой информации два: независимая пресса и независимые исследовательские центры. С этой точки зрения, помощь со стороны кого бы то ни было таким структурам — это не акт, направленный против существующей власти, а в каком-то смысле даже наоборот. Если власти, раскрывая газеты или аналитические бюллетени, получают информацию о положении дел, о болевых точках общества (которые могут разрастись в большие конфликты и причинить неприятности тем же властям), — они должны за это благодарить. Это поняли во многих постсоциалистических странах, в том числе и в России. Там государственные структуры финансируют независимые исследовательские центры, потому что заинтересованы в объективных исследованиях.

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

# Фронт за линией фронта

## Из цикла «Частное мнение гражданина Старикевича»



Аббревиатура «БНФ» всегда вызывала ненависть у властей и очень часто глубокую неприязнь у других оппозиционных структур. На фоне рыхлых и беспомощных демократических партий Белорусский Народный Фронт выделялся склонностью к конкретным делам, а не только политическим заявлениям. По крайней мере, так обстояли дела до недавнего времени.

Прошлой весной именно Фронт посредством массовых уличных акций вывел белорусскую оппозицию из послереферендумного ступора. В результате организация ощутила приток свежих сил, в том числе интеллектуальной элиты, центром притяжения которой стал институт государственности и демократии. Пожалуй, самой удачной идеей, реализованной БНФ за последние годы, стало создание Молодого Фронта. Неотягощенная психологией аутсайдеров, зачастую свойственной белорусским оппозиционерам со стажем, молодежь придала новый импульс деятельности Фронта. Конечно, не стоит преувеличивать достаточно скромные успехи, но немаловажно то, что в определенный момент БНФ начал перехватывать политическую инициативу у президентской команды.

Власть почувствовала, что поверженный противник поднимается с колен. И засуетилась. В противовес Молодому Фронту создали Белорусский патриотический союз молодежи, на который угробили миллиарды бюджетных денег без сколь-нибудь существенной отдачи. В рядах БПСМ оказалась главным образом аполитичная часть студенчества, устремления которой ограничены спокойным окончанием учебного заведения. Пользы от таких членов для организации немного. Но надо отдать должное лидерам БПСМ: конъюнктуру они прочувствовали неплохо и возможность красиво пожить за казенный счет не упустили.

Тем временем июньский съезд БНФ засвидетельствовал единство в рядах движения, абсолютным большинством голосов подтвердив лидерские полномочия Зенона Пазьняка. Было заявлено, что Фронт берет на себя функции национально-освободительного движения. Делегаты разъехались, воодушевленные открывающимися перспективами.

С тех пор БНФ впал в состояние летаргической спячки, характерное для «объединенной оппозиции». За кратковременным всплеском последовал очередной провал. Фронт бессмысленно растратил очки, набранные весной.

Причины происшедшего следует искать в первую очередь внутри самого движения. Руководство БНФ раскололось на две группировки: «пазьняковцев», неформальным лидером которых является Вячеслав Сивчик, и «внутрипартийную оппозицию» во главе с Юрием Ходыко. Следствием их противостояния стал процесс постепенной потери управляемости организацией, который в обозримом будущем способен низвести БНФ до уровня карликовых партий.

История соперничества Пазьняка и Ходыко уходит корнями в начало девяностых. Но своего пика оно достигло два года назад. После того как Пазьняк оказался за пределами Беларуси, а Ходыко провел свою знаменитую тюремную голодовку, авторитет последнего вырос достаточно сильно. Сам он, не тушуясь, заявил летом 1996 года, что если Пазьняк в ближайшее время не вернется, то на его должность будет избран другой человек.

Внутрифронтовская оппозиция получила вполне прогнозируемую поддержку извне. Ходыко, в отличие от Пазьняка, все время соблюдавшего дистанцию даже от демократических партий, быстро навел мосты и с ОГП, и с «левыми». Как следствие, в негосударственных СМИ появились весьма лестные для зампреда БНФ публикации штатных пропагандистов прокоммунистических и либеральных структур, доселе в симпатиях к Фронту не замеченных. Профессора уверенно прочили в новые лидеры БНФ.

Что было дальше, хорошо известно. В белорусских условиях героические отсидки имеют обыкновение переходить в бесславное политическое существование. Нужно было доказывать обоснованность своих претензий на лидерство во Фронте реальными делами. Это как раз Юрию Ходыко и не удалось. Отмечу лишь тот факт, что и сам заместитель Пазьняка в конце концов осознал: первым номером ему не быть. Вылилось это в очень странную тираду, из которой следовало, что любые лидеры — это пережиток тоталитарного прошлого и молодой белорусской демократии они не нужны. Ну да ладно.

Вчистую проиграв Пазьняку на идейном уровне еще до начала вышеупомянутого съезда, Ходыко оружия не сложил и перешел к аппаратной борьбе. Вылилось это в обычные дрязги, которыми сейчас и поглощено руководство БНФ. Главный козырь группировки Ходыко в том, что на ее стороне выступает Левон Борщевский. К ней также примыкают еще один-два заместителя председателя БНФ (всего их шесть) и два секретаря Управы (из семи). Естественно, такой расклад открывает широкие возможности для самых банальных интриг.

Уж сколько раз было говорено о недопустимости в нынешней ситуации междоусобных разборок. Тщетно. Порождают их, чаще всего, люди, слишком слабые, чтобы бороться с режимом Лукашенко, и потому отыгрывающиеся на собственных соратниках. Реализовывать свои амбиции они готовы любыми средствами вплоть до потасовок. На одном из заседаний Центральной Рады Молодого Фронта уважаемый профессор буквально вырвал микрофон у Павла Северинца. Слава Богу, до мордобития дело пока не дошло.

Поэтому уже не вызывает удивления, когда Ходыко, характеризуя несимпатичных ему людей, прибегает к стилистике «Советской Белоруссии». Ерничанье по адресу «патриотов от молока матери» в устах заместителя председателя БНФ совершенно неуместно. Равно как и исполнение им на общественных началах функций адвоката Семена Шарецкого.

Но это так, к слову. Главная проблема заключается в том, что постоянное выяснение отношений в руководстве БНФ отнюдь не стимулирует деятельность организации. Вся энергия уходит на борьбу с «внутренними врагами». Разумеется, ни о какой сплоченности и проведении единой линии говорить в таких условиях не приходится.

Только одна иллюстрация к сегодняшней ситуации во Фронте. Как-то Пазьняк, узнав о том, что Свислочская Рада БНФ приняла решение об объединении с другими демократическими организациями своего района, потребовал его отмены. В результате в штаб-квартире Фронта проводили чуть ли не служебное расследование, чтобы выявить и наказать того, кто сообщил об этом факте руководителю движения.

Между тем, вопрос выбора союзников является одним из ключевых и полагаться в нем исключительно на принцип «вместе и батьку бить сподручнее» не стоит. Ясно выраженная позиция всегда выгодно отличала БНФ от других оппозиционных структур, которые за обширными программами прятали собственное неумение четко сформулировать основополагающие тезисы.

Проблема, впрочем, заключается не только в теоретических установках. Как показал опыт «объединенной оппозиции», она оказалась гораздо менее дееспособной в сравнении, например, с фракцией БНФ в Верховном Совете двенадцатого созыва. Последняя, как известно, насчитывала едва ли десять процентов от общего состава депутатов, но периодически ей удавалось навязать остальным свою линию поведения. А парламентское большинство тринадцатого Верховного Совета, соответственно располагавшее куда большими возможностями, за неполный год работы так и не смогло их реализовать.

Причины тому лежат вообщем-то на поверхности. Еще никогда попытки скрестить ежа и ужа положительных результатов не давали. Но идеологи «объединенной оппозиции» испытывают необыкновенное умиление при виде колонн демонстрантов, где соседствуют бело-красно-белые и красно-зеленые флаги. А для простых смертных начали стираться грани между БНФ и ПКБ, а тем паче всеми прочими. Все большее распространение получает мнение: «Да все они... одним миром мазаны». Ореол неудачников распространяется на всех, кто причастен к «объединенной оппозиции». Так что Фронт дороговато заплатил за удовольствие быть представленным в президиумах рядом с Шарецким и Калякиным.



*Апрель 1994 г. В штаб-квартире Народного Фронта поздравляют Зенона Пазьняка с 50-летним юбилеем (снимок из архива СВАБОДЫ).*

Неужели до сих пор не понятно, что идейную пропасть между Фронтом и коммунистами невозможно преодолеть? И о каком таком сотрудничестве между ними «ради благородных целей» может идти речь, когда на первой полосе газеты «Товарищ» аршинными буквами написано «За СССР»?

Присутствует здесь, между прочим, и моральный аспект, как ни смешно о нем говорить в связи с политикой. Насколько я понимаю, Юрий Ходыко вполне комфортно себя чувствует в одной упряжке с руководителями партии, которая ответственна за гибель миллионов белорусов. Думаю, что многие сторонники БНФ иначе смотрят на такое «пламенное сотрудничество». Фронт, как известно, начинал свою деятельность с разоблачений преступлений коммунизма. Но пепел Курапат, похоже, уже не стучит в сердца некоторых активистов БНФ.

Что касается союза Фронта с другими демократическими партиями, то и здесь все далеко не однозначно. В теории идея объединения всех антипрезидентских сил может быть и хороша, но на практике это приводит к классической ситуации, описанной Крыловым в басне «Лебедь, рак и щука». Пока все со всеми все согласуют, ни времени, ни сил на конкретные дела уже не остается. Более того, такая оппозиция напоминает захудалый колхоз, члены которого работают не на результат, а за трудодни.

Те оппозиционные структуры, которые с большой натяжкой можно назвать партиями парламентского типа, оказались не приспособленными к деятельности в условиях авторитарного режима и фактически превратились в статистов (не говоря уже о коммунистах и аграриях, которых в большинстве своем и вовсе устраивает роль «обиженных депутатов». Да и в любом случае два десятка партийных функционеров левого толка едва ли можно рассматривать в качестве сколь-нибудь серьезной силы). Ставить им это в упрек не стоит: предназначение этих организаций совсем иное. Мы ведь не используем отвертку для забивания гвоздей. Просто сейчас наступило время «жесткой оппозиции», какой в свое время был БНФ.

Хотя в настоящий момент вхождение Белорусского Народного Фронта в «объединенную оппозицию» нецелесообразно, это ни в коем случае не означает, что Фронт должен с ней бороться. Партнерские отношения необходимо сохранять. Однако вовсе необязательно доводить их до слияния во взаимном экстазе. Объединение не может быть самоцелью. Каждый должен заниматься своим делом. Может быть, тогда появятся реальные результаты.

Но прежде всего нужно прекратить разброд и шатания внутри самого Фронта. В противном случае БНФ очень скоро ждет раскол. И тогда о «жесткой оппозиции» придется забыть на неопределенное время: до тех пор, пока не появится и не наберет силу новая организация такого же типа.

Положить конец «верхушечному» кризису во Фронте сегодня способен только один человек: Зенон Пазьняк. Лидер БНФ — фигура крайне неоднозначная. С одной стороны, его резкость и радикализм порой бьют через край со всеми вытекающими отсюда последствиями. С другой — Пазьняку как никому другому присуще очень точное понимание политической ситуации и проблем, стоящих перед нашим государством.

Несгибаемость Пазьняка часто идет ему во вред, даже когда он прав. Тезисы его знаменитой статьи «О русском империализме...» оказались неприемлемыми для многих. И хотя последующие события подтвердили справедливость сказанного Пазьняком, популярности ему это не добавило. Правда оказалась слишком жестокой. И таких парадоксов в политической карьере Пазьняка немало.

Можно долго рассуждать на тему достоинств и недостатков руководителя Фронта. Но как говорит известный футбольный тренер Валерий Лобановский, «после игры прежде всего нужно смотреть счет на табло, а уж потом рассуждать о чем угодно». С этой точки зрения Пазьняк, как и все остальные оппозиционеры, сегодня в явном минусе.

Понимает это, на мой взгляд, и он сам. Поэтому и стремится, проанализировав предыдущую деятельность, выработать новую стратегию, которая привела бы к успеху. Этим обусловлено длительное нахождение Пазьняка за границей: задача перед ним стоит крайне непростая. Проще всего последовать советам вернуться и сесть в тюрьму во имя идеи. Но весьма сомнительно, что такой путь окажется достаточно эффективным в нынешних условиях. Впрочем, реально влиять на белорусские дела из-за кордона также крайне проблематично. Ситуация, близкая к патовой.

Сумеет ли Пазьняк найти единственно верный выход из нее, покажет время. Гарантий положительного ответа на этот вопрос никто дать не может. Но из всех оппозиционных политиков именно лидер БНФ обладает наибольшим потенциалом. Другой фигуры такого калибра среди противников президента пока нет.

И уж совершенно необходимо, чтобы лидер БНФ проявил политическую волю и сохранил единство в своей организации, даже если для этого потребуется избавиться от одного-двух бывших единомышленников. А «внутрипартийной оппозиции» неплохо бы определиться, кто является для нее врагом: Пазьняк или все-таки Лукашенко.

**Александр СТАРИКЕВИЧ**

# Президент из Чикаго

Валдас Адамкус, 71-летний гражданин США, выигравший в январе президентские выборы в Литве, вчера был приведен к присяге и вступил в должность главы государства. За пять дней до этого он отказался от гражданства США.

## Родом из «лесного братства»

Предшествующие январской победе 27 лет Адамкус прослужил, что называется, по бюрократическому ведомству. Он прошел все ступени служебной лестницы в агентстве США по защите окружающей среды, дойдя до поста директора регионального управления, в чьем попечении находилось пять штатов с населением 45 млн. человек. Чиновничья служба наложила отпечаток на этого человека. Он, кажется, всегда застегнут на все пуговицы, его мимика и жестикуляция скупы, подарка для папарацци он собой не представляет.

Однако если заглянуть за эти двадцать семь лет и даже дальше — за последние 48 лет его жизни, прожитые в благополучных Соединенных Штатах, то мы увидим вчерашнего каунасского гимназиста, с оружием в руках защищавшего в годы Второй мировой войны независимость Литвы — сперва от Красной Армии, затем от гитлеровской, потом снова от Красной. Он входил в движение Сопротивления, принимал участие в издании подпольной газеты *Jaunime, Budek*! («Юность, будь на страже!»). Попал в нацистский лагерь, затем, когда немцы отступили, сражался против советской оккупации.



В отличие от своих избирателей, Адамкус никогда не жил в советской Литве

Когда в прошлом году во время предвыборного митинга в местечке Седа (северо-запад Литвы) кто-то из избирателей усомнился в том, что «американец» знает литовскую жизнь, и предположил, что Адамкуса «послали» сюда Соединенные Штаты в качестве своего наместника, колониального вице-губернатора, он не стал вступать в спор. Попросил присутствующих следовать за ним, довел до какого-то там картофельного поля и рассказал, как в 1944 году их двухтысячный отряд «лесных братьев» закидывал гранатами из прорытых здесь траншей наползавшие на них советские танки.

Так что природу недавнего успеха этого человека надо, конечно, искать не столько в американской жизненной хватке, сколько в тех «сороковых-роковых», когда складывался его характер и разыгрывалась сперва общая для всех литовцев драма — потеря независимости, а затем его личная — вынужденный отъезд с родины в 1945 году. До 1949 года он жил в Германии, где учился в Мюнхенском университете. Тогда же он выиграл две золотые и одну серебряную медали на легкоатлетических состязаниях такого уникального в спортивной истории — и по понятным причинам совсем неизвестного у нас — соревнования, как Олимпийские игры порабощенных наций 1948 года.

Да и за полувековым американским периодом жизни Адамкуса, за этой удачной карьерой «бюрократа от экологии», как можно догадаться, — все те же переживания изгнанника и надежда когда-нибудь вернуться на свободную родину. 48 лет жизни в Америке — это 48 лет участия во всевозможных акциях протеста против советской оккупации Литвы, кульминацией которых стали Всемирные литовские игры, организованные Адамкусом в 1983 году. Он настолько был одержим идеей свободы своей родины, что соседи и знакомые прозвали его Мистер Литва.

Даже экологическую свою деятельность он сумел направить на благо политической. В 1972 году Адамкус вошел в американскую часть смешанной советско-американской комиссии по защите окружающей среды и проработал в ней 20 лет. Это дало ему возможность часто приезжать в СССР, почти каждый год бывать в Литве.

## Нетихие американцы

После восстановления независимости он с головой ушел в политическую жизнь Литвы, оставаясь, впрочем, гражданином США и живя на родине лишь наездами. В 1993 году возглавил предвыборный штаб еще одного американского литовца, Стасиса Лазорайтиса, первого представителя литовской диаспоры, претендовавшего на президентский пост. Вообще нельзя не обратить внимание на исключительную политическую активность американских литовцев на исторической родине. Двое — отставные полковники американских ВВС — занимают посты заместителей руководителей военного и пограничного ведомств республики. Еще один бывший американский полковник — главный инспектор литовской армии. У трех членов парламента — американские паспорта. В самом начале 90-х годов пресс-секретарем литовского сейма была литовка из Чикаго Рита Дапкус. Потом она из политики ушла и сейчас, кажется, держит ресторан в Вильнюсе.

## Зачем Литве Валдас Адамкус?

А что выиграла Литва, проголосовав за такого президента? И почему она остановила свой выбор на нем? Почему предпочла пожилого, малоизвестного человека молодому (44 года), энергичному Артурасу Паулаускасу, бывшему генпрокурору республики и борцу с коррупцией? В первом туре Паулаускас выиграл у Адамкуса 17 пунктов, а во втором проиграл.

Стоит вспомнить, что Литва на всем протяжении перестройки и послесоветского периода шла немного впереди всех. Она первой среди советских республик начала экономические реформы, первой открыто провозгласила своей политической целью независимость, первой посадила на президентство диссидента (Ландсбергиса), первой в диссидентах разочаровалась и вернула бразды правления руководителю советской формации (Бразаускасу). Теперь, призвав на царство эмигранта и «иностранца» Адамкуса, она, похоже, первой решает вовсе порвать с типом лидера — выходца из советского прошлого (неважно — диссидента или конформиста). Она делает выбор в пользу человека, вовсе не жившего при советской власти и, следовательно, не зараженного ни одной из ее бацилл. Такого человека можно сыскать только за границей.

**Леонид ВЕЛЕХОВ,**
*«Итоги»*

# Хартыя-97 - пытанні і адказы

**1. ШТО АЗНАЧАЕ СЛОВА «ХАРТЫЯ»?**

У перакладзе з грэцкай мовы слова «хартыя» азначае «грамата, рукапісны дакумент». А распаўсюдзілася гэтае слова ў сваім пераносным значэнні — «правы», «прывілеі». Словам «хартыя» называліся некалькі сусветна вядомых дакументаў. Праз іх народы змагаліся за свае правы: палітычныя, эканамічныя, сацыяльныя, грамадзянскія. І заўсёды гэтая барацьба заканчвалася перамогай.

Найбольш вядомыя Хартыі:

**Вялікая хартыя вольнасцяў (1215 год, Англія)** — яна ўпершыню абвесціла правы і свабоды, якія не могуць абмяжоўваць ні каралі, ні дзяржава.

**Народная хартыя (1838 год, Англія)** — першая праграма рабочых, якая сфармулявала іхнія асноўныя правы і паклала пачатак сучаснаму рабочаму руху.

**Хартыя-77 (1977 год, Чэхаславакія)** — дэкларацыя, якая абвесціла прынцыпы пераадолення таталітарызму і ўсталявання свабоды і справядлівасці не толькі для Чэхаславакіі, але і для ўсіх краінаў Усходняй Еўропы. Свае подпісы пад Хартыяй-77 паставілі каля дзвюх тысячаў мужных чэхаў і славакаў.

**Парыжская хартыя для новай Еўропы (1990 год, прынятая Арганізацыяй па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе)** — абвесціла, што асноўнымі прынцыпамі еўрапейскага развіцця дэмакратыі з'яўляюцца захаванне правоў чалавека, росквіт праз эканамічную свабоду і верхавенства закона. Беларусь падпісала гэты дакумент, але сцверджаныя ў ім прынцыпы цяпер груба парушаюцца ў нашай краіне.

**Хартыя-97 (1997 год, Беларусь)** — дакумент, які сфармуляваў прынцыпы, пад якімі можа падпісацца любы чалавек, для якога свабода, незалежнасць Бацькаўшчыны, правы чалавека і справядлівасць з'яўляюцца безумоўнымі вартасцямі.

**2. ХТО ПРЫДУМАЎ ХАРТЫЮ-97?**

У тэксце Хартыі — толькі думкі і ідэі, блізкія і зразумелыя многім людзям у Беларусі. Аднойчы журналіст Дзмітрый Бандарэнка сказаў, што пад ідэямі годнага жыцця для кожнага чалавека, свабоды і незалежнасці Беларусі могуць падпісацца ўсе — нават тыя, хто сёння спаборнічае паміж сабою. На ідэю адгукнуліся іншыя журналісты — так з'явіўся тэкст Хартыі-97. Першымі яго падпісалі сто найбольш паважаных і вядомых у Беларусі людзей. А за першыя сто дзён існавання Хартыі да іх далучыліся каля 60 тысячаў чалавек па ўсёй краіне.

**3. ХАРТЫЯ-97 — ГЭТА ШТО: ПАРТЫЯ, РУХ, ПРАФСАЮЗ?**

Хартыя-97 — гэта дакумент, у якім сфармуляваныя каштоўнасці і прынцыпы, блізкія і зразумелыя кожнаму. Хартыя — гэта своеасаблівая маральная Канстытуцыя, якую чалавек добраахвотна прызнае, паставіўшы пад ёй свой подпіс. Подпіс пад Хартыяй не азначае ўступлення ў нейкую партыю ці арганізацыю. Падпісаўшы, чалавек далучаецца да тых тысячаў і мільёнаў людзей, якія вераць у ідэалы дабра і справядлівасці. Хартыя-97 — гэта грамадзянская ініцыятыва, рух аднадумцаў насустрач адно аднаму. Кожны, хто падпісаў, сам для сябе вырашае — што ён асабіста можа зрабіць для таго, каб вартасці і прынцыпы Хартыі-97 сталі рэальнасцю.

**4. ДЗЕЛЯ ЧАГО ТРЭБА ЗБІРАЦЬ ПОДПІСЫ ПАД ХАРТЫЯЙ-97?**

Кожны новы подпіс пад Хартыяй-97 сведчыць, што павялічваецца колькасць прыхільнікаў свабоднай, незалежнай Беларусі. Кожны новы подпіс сведчыць, што нас стала больш, што мы сталі мацнейшымі, што ў Беларусі стала менш абыякавых людзей. Чым больш людзей далучаецца да Хартыі, тым у большай бяспецы яны сябе адчуваюць. Калі ваш муж або жонка, сын або дачка падпісалі Хартыю-97, а вы за іх баіцеся — падпішыцеся самі, і вашыя блізкія будуць адчуваць сябе ў большай бяспецы. Рэпрэсіі магчымыя супраць асобных людзей, але перад дзесяткамі і сотнямі тысячаў дыктатура бяссільная. Калі Хартыю падпісаў адзін чалавек у вёсцы ці на заводзе, начальства можа на яго націснуць. Але калі подпісы паставілі ўсёй вёскай, усім цэхам, усім заводам — з такім калектывам любыя «вертыкальшчыкі» вымушаныя лічыцца.

**5. ЯК ЗБІРАЦЬ ПОДПІСЫ ПАД ХАРТЫЯЙ-97?**

Падпішыцеся самі і прапануйце сваёй сям'і, сябрам, сваякам, суседзям. Падпісантам Хартыі-97 лічыцца той, хто паставіў пад ёй свой подпіс, імя і прозвішча. Можна падпісацца на купоне, выразаным з газеты, можна на бланку падпіснога ліста, можна на любым аркушы паперы, прыпісаўшы «За Хартыю-97».

Калі вы хочаце падключыцца да збору подпісаў, можна звярнуцца да мясцовых аддзяленняў партыяў і грамадскіх арганізацыяў, удзельнікі якіх падпісалі Хартыю-97. Збор подпісаў магчымы шляхам абходу кватэр, на пікетах, мітынгах і сходах. Подпісы можна прынесці ці адправіць па пошце ў незалежныя газеты.

**6. ШТО, АКРАМЯ ЗБОРУ ПОДПІСАЎ, МОЖНА ЗРАБІЦЬ У РАМКАХ ХАРТЫІ-97?**

Розным чынам прапагандаваць ідэі захавання правоў чалавека, свабоды, незалежнасці Беларусі. Не быць абыякавым да прыніжэння і бедаў іншых. Сёння вы дапамаглі некаму абараніць свае правы, а заўтра дапамогуць вам. Хартыя-97 ужо аказвае маральную, матэрыяльную і юрыдычную дапамогу палітзняволеным і рэпрэсіраваным. Хартыя-97 інфармуе сусветную грамадскасць аб сітуацыі ў Беларусі, аб парушэннях правоў чалавека, аб фарміраванні грамадзянскай супольнасці. Асноўны прынцып работы Хартыі — аб'яднанне ў дзеянні. Таму асноўныя намаганні накіроўваюцца на арганізацыю супрацоўніцтва паміж рознымі дэмакратычнымі партыямі, грамадскімі арганізацыямі, прафсаюзамі.

**7. ХТО І ЯК КААРДЫНУЕ РАБОТУ ХАРТЫІ-97?**

За Хартыяй-97 — унёсак усіх і кожнага, хто яе падпісаў. Аўтарытэт і талент самага вядомага беларускага пісьменніка Васіля Быкава, кінарэжысёра Юрыя Хашчавацкага і іншых дзеячаў культуры. Салідарнасць і грамадзянская смеласць журналістаў недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Карпатлівая праца інтэлігенцыі па захаванні і развіцці беларускай мовы і культуры. Мужнасць вядомых палітыкаў. Энергія і аптымізм моладзі. Мудрасць і любоў мацярок Вадзіма Лабковіча, Аляксея Шыдлоўскага і Вадзіма Кабанчука. Стойкасць актывістаў свабодных прафсаюзаў па абароне правоў рабочых. У Хартыі няма правадыроў. Ёсць ініцыятыўная група, у якую ўвайшлі журналісты, дзеячы культуры, палітыкі, прадстаўнікі праваабарончых арганізацыяў. Сёння яны добраахвотна вядуць збор подпісаў і каардынуюць работу па інфармаванні беларускай і міжнароднай грамадскасці. Створаныя рабочыя групы — па абароне правоў чалавека, па міжнародных кантактах, інфармацыйны цэнтр.

**8. ЯК ХАРТЫЯ-97 ДАПАМОЖА АБАРАНІЦЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ БЕЛАРУСІ?**

Яна ўжо абараняе незалежнасць сваім існаваннем. Знешні свет, назіраючы за тым, што адбываецца ў Беларусі, мог прыйсці да высновы, што беларусы хочуць жыць ва ўмовах беззаконня і прыніжэння. Што беларусы самі адмаўляюцца ад свабоды і росквіту. З'яўленне Хартыі-97 абвесціла на ўвесь свет, што беларусы не хочуць быць пешкамі ў чужой гульні, што большасць грамадзянаў выступае за свабоду і незалежнасць. Хартыя-97 гаворыць, што ў Беларусі фарміруецца грамадзянская супольнасць — неад'емны атрыбут цывілізаванай дзяржавы.

**9. ШТО ХАРТЫЯ-97 МОЖА ДАЦЬ ПРАФСАЮЗАМ, ПАРТЫЯМ І ІНШЫМ ГРАМАДСКІМ СІЛАМ БЕЛАРУСІ?**

Хартыя-97 — гэта агульнаграмадзянскі рух за каштоўнасці і прынцыпы, якія стаяць вышэй за партыйныя праграмы і ідэалогіі. Хартыя не дзеліць людзей па класах, нацыянальных і рэлігійных прыкметах. Хартыя належыць усім, хто згодны з яе ўніверсальнымі прынцыпамі. Калі праграмныя палажэнні канкрэтнай партыі, прафсаюза, грамадскай арганізацыі блізкія да мэтаў Хартыі-97, значыць — збор подпісаў пад яе тэкстам і папулярызацыя яе ідэяў могуць стаць формай работы гэтай арганізацыі. Хартыя дае партыям магчымасць спаборнічаць у сіле і арганізаванасці, не адсоўваючы адзін аднаго, працуючы на агульную справу. Хартыі-97 удалося адчыніць прамое прадстаўніцтва ўсіх беларускіх дэмакратычных сілаў у Брусэлі. Гэта не толькі магчымасць інфармаваць Еўропу аб сапраўдным становішчы справаў у краіне, гэта інструмент народнай дыпламатыі, магчымасці якой часам большыя за магчымасці дыпламатыі афіцыйнай.

Хартыя — гэта салідарнасць у дзеянні, калі інтэлігенцыя выступае за правы рабочых, а рабочыя далучаюцца да абароны беларускага ліцэя.

**10. ЯК ХАРТЫЯ-97 ДАПАМОЖА ПАЛЕПШЫЦЬ ЖЫЦЦЁ Ў КРАІНЕ?**

Для пачатку ідэі Хартыі дапамогуць нам пазбавіцца страху, выпрастацца і падняць галаву. Большасць еўрапейцаў жыве ва ўласных дамах, маюць вартасны заробак, іхнія дзеці атрымліваюць выдатную адукацыю, а пажылыя людзі маюць забяспечаную старасць. І толькі цяперашнія беларускія правіцелі вядуць народ «іншым шляхам». Хартыя-97 — гэта адмаўленне ад прынцыпу «магло б быць і горш». Калі мы аб'ядНаем свае намаганні, калі будзем салідарныя, то змены да лепшага абавязкова прыйдуць. Калі ў Беларусі будзе менш зла і самавольства — значыць, жыццё ў краіне палепшыцца. Людзей, якія хочуць жыць годна, у Беларусі большасць.

**Прэс-служба Хартыі-97**

ХАРТЫЯ 97
CHARTER-97

(подпіс) (прозвішча, імя)

**Паважаныя чытачы! Мы заклікаем падтрымаць Хартыю-97. Свае подпісы вы можаце даслаць ці прынесці на адрас рэдакцыі: 220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56**

# Рыцары спаткаліся на Старавіленскім

«Мы падарожнічаем па часе скрозь стагоддзі», — так тлумачаць сваё хобі ўдзельнікі фестывалю рыцарскіх клубаў, што адбыўся ў Мінску 21—23 лютага.

Гаспадарамі свята былі рыцары ордэна Сэрца Дракона, якія запрасілі гасцей да свайго «круглага стала» — праўда, не ў старажытны замак, а ў Мінскі палац дзяцей і моладзі, што на Старавіленскім тракце.

Рыцарскія клубы аб'ядноўваюць аматараў сярэдневечнай гісторыі і культуры. Паўтараць подзвігі і паходы легендарных вяроў цяпер цяжка, але можна зрабіць сабе «сапраўдныя» рыцарскія даспехі, навучыцца фехтаваць, а таксама пастарацца жыць па высакародных законах рыцарскага гонару.

Пахваліцца сваімі шыкоўнымі строямі і гучнымі рыцарскімі імёнамі ды паказаць моц і спрыт на фестываль у Мінск прыехалі прадстаўнікі клубаў з многіх гарадоў Беларусі, а таксама з Масквы, Казані, Уфы. Менестрэлі — рыцары, якія спяваюць і танчаць — парадавалі публіку сваім мастацтвам, а латнікі вызначылі наймацнейшага на турніры.



*Пераможца рыцарскага турніру Балін і пасля заканчэння спаборніцтваў не выпускаў з рук сваю шаблю.*

Як патлумачыў карэспандэнту НАВІНАЎ Магістр ордэна Сэрца Дракона (у звычайным жыцці яго завуць Дзмітрый Нясцюк), «сучасныя рыцары пазбягаюць крывавых паядынкаў. Мы прыдумалі для турніраў даволі складаныя правілы, па якіх вызначаем пераможцаў у спаборніцтвах рыцараў. А на сённяшні турнір запрасілі аб'ектыўных суддзяў з мінскай Уніі «Меч і Воран», якая не брала ўдзелу ў баях», — гаворыць Д.Нясцюк. Каб вызначыць найлепшага, суддзі бралі пад увагу ўменне рыцараў фехтаваць, байцоўскія якасці, а таксама — гістарычную дакладнасць і якасць выканання зброі і касцюма. У мінскім турніры пажадалі ўдзельнічаць чатыры дзесяткі рыцараў, і найлепшым ва ўпартай барацьбе паказаў сябе ваяр па імені Балін (гэтае рыцарскае імя носіць Уладзіслаў Хабараў з Казані). Узнагародай яму стаў урачыста ўручаны моргенштэрн — булава з шыпамі, якая калісьці служыла штурмавой зброяй.

Шкада, канешне, што перамога дасталася не гаспадарам турніру. З беларускіх латнікаў вызначыўся толькі Вітэла фон Хелхавэн (Канстанцін Дудараў), якому дастаўся прыз сімпатыяў гледачоў — залатыя шпоры. А зрэшты, усе рыцары былі вельмі задаволены сваім святам. У жніўні яны плануюць зноў памерацца сіламі на турніры, які пройдзе ў Мірскім замку.

**Алена СУРКО**

**АФІША**

# Вясна пачынаецца з джаза

Апошні дзень зімы — 28 лютага — пройдзе пад знакам року: у клубе імя Дзяржынскага адбудзецца акустычны канцэрт гурта *N.R.M.* — уладальніка «Роккароны'98». Пачатак а 19-й гадзіне, квіткі каштуюць 100 тысячаў рублёў.

А вось вясну першымі сустракаць збіраюцца аматары джаза. У першы дзень сакавіка яны ладзяць джазавую вечарыну *Spring Blues* («Вясенні блюз») у клубе «Акварыум» (вул. Кульман, 14). Афіша абяцае сустрэчу з шэрагам джазавых калектываў Мінска і Гомеля, а таксама *great jam session*. Кошт квіткоў — 70 тысячаў рублёў, пачатак а 19-й гадзіне.

1 сакавіка ў Палацы культуры прафсаюзаў аматараў аўтарскай песні чакае сустрэча з Аленай Казанцавай. Яе праграма называецца «Я спадзяюся, што ўсё пераменіцца». Пачатак а 19-й гадзіне, кошт квіткоў — 50—90 тысячаў рублёў.

У Канцэртнай зале філармоніі ў першы дзень вясны пройдзе вечарына памяці кампазітара Ігара Паліводы, у якой возьмуць удзел беларускія паэты і зоркі нашай эстрады.

2 сакавіка ў Канцэртнай зале выступіць аркестр «Маладая Беларусь». Прагучыць музыка Ф.Мендэльсона, салістка — М.Яшвілі (скрыпка). 4 сакавіка тут пройдзе канцэрт Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі і вакальнага ансамбля «Камерата», якія прадставяць мінскай публіцы альтыста і кампазітара Ю.Тканава (Масква).

Зала камернай музыкі запрашае 28 лютага на канцэрт вакальнай музыкі. Спяваюць Таццяна Громава (сапрана) і Уладзімір Громаў (барытон), у праграме — творы Шуберта, Брамса і Вольфа. З сакавіка ў камернай зале адбудзецца чарговы канцэрт з цыклу «Вечары царкоўнай музыкі». Выканаўцы — К.Шараў (арган) і Дзяржаўны камерны хор Беларусі пад кіраўніцтвам І.Мацюхова.

**ТЭАТРЫ**

5 сакавіка ў Доме афіцэраў пройдзе спектакль «Васемнаццаты вярблюд» Маскоўскага акадэмічнага тэатра сатыры. Гэта камедыя ў 2-х дзеях, з 4 акцёрамі, сярод іх — народная артыстка СССР Вера Васільева. Квіткі каштуюць ад 100 да 400 тысячаў рублёў, пачатак а 19-й гадзіне.

Тэатр оперы і балета прапануе паглядзець 27 лютага балет «Шчаўкунок». 1 сакавіка раніцай пройдзе балет «Чыпаліна», а ўвечары адбудзецца Вечар італьянскай оперы (у праграме — папулярныя арыі і «Сялянскі гонар» Масканьі). 3 сакавіка раніцай маленькія тэатралы могуць паглядзець оперу «Чароўная музыка», а ўвечары для дарослых будзе гучаць знакамітая «Чыо-Чыо-Сан». 4-га на сцэне тэатра балет «Жызэль», 5-га — опера «Іаланта».

Разнастайнымі па жанры імпрэзамі радуе гледачоў Тэатр музычнай камедыі: 1 сакавіка тут пройдуць балет «Зачараваны прынц» (раніца) і вадэвіль «Бяда ад пяшчотнага сэрца» (вечар). 5 сакавіка — мюзікл «Шклянка вады».

Тэатр імя Янкі Купалы прадстаўляе 1 сакавіка «Паўлінку», 2-га — «Ромул Вялікі», 4-га — «Ажаніцца — не журыцца», 5-га — «Касцюмер». Тэатр беларускай драматургіі запрашае паглядзець «Дзіця з Батлеема» (1 сакавіка), «Лекар паняволі» (4-га) і «Містэр Розыгрыш» (5-га). У Тэатры-студыі кінаакцёра 1 і 3 сакавіка — «Апошняя жанчына сеньёра Хуана», 4 і 5 сакавіка — «Каханне смешнага чалавека».

Тэатральны калектыў «Віртуозы сцэны» запрашае на сваю імпрэзу «Сублімацыя кахання» ў клуб імя Дзяржынскага 1, 8, 14 і 20 сакавіка. Кошт квіткоў — ад 50 да 100 тысячаў рублёў, пачатак а 19-й гадзіне.

**ВЫСТАВЫ**

Палац мастацтва запрашае на выставу Наталлі Рачкоўскай, якая прадстаўляе публіцы свае карціны і творы з керамікі: адмысловыя вазы і шматлікіх вусатых катоў, кожны з якіх мае калі не асабістае імя, дык дакладна — адметны характар. Таксама ў Палацы мастацтва праходзіць выстава, прысвечаная памяці жывапісца Барыса Уса (1929—1997).

У Нацыянальным мастацкім музеі праходзіць выстава палотнаў класіка беларускага савецкага пейзажнага жывапісу Віталя Цвіркі, а таксама працуе невялічкая экспазіцыя «Мастакі Расіі і Беларусі пра Балгарыю».

Гасцёўня імя Ул.Галубка (Траецкае прадмесце) прадстаўляе выставу народнага мастака Беларусі Уладзіміра Стэльмашонка «Радня», экспанаты якой знаёмяць гледачоў не толькі з творчай манерай самога мастака, але і з ягонымі шматлікімі сваякамі.

Беларускі інстытут праблем культуры (вул.Каліноўскага, 12) разгарнуў экспазіцыю карцін Алеся Цыркунова. У музеі беларускай скульптуры імя А.Бембеля (вул.Я.Коласа, 29а) прадстаўлены творы Юрыя Палякова. Рэспубліканскі дом архітэктара запрашае на выставу акварэляў і архітэктурных праектаў Івана Мядзведзева.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

*У кнігарні*

# Сапраўдная зброя князя Вітаўта

**Адным з першых выданняў, што з'явіліся на беларускім рынку ў 1998 годзе, стала кніжка гродзенскага гісторыка Алеся Краўцэвіча «Вялікі князь Вітаўт». Выпусціла яе выдавецтва «Юнацтва».**

Кніжка невялікага аб'ёму і адрасаваная найперш школьнікам. Аднак аўтар не імкнуўся зрабіць займальную казачку з біяграфіі вялікага князя. Гэтая дзіцячая кніжка абапіраецца толькі на навукова абгрунтаваныя факты (аўтар нават спасылаецца на кансультантаў-гісторыкаў). І пры гэтым расповяд пра старадаўнія падзеі зусім не такі, як у сухім і нудным падручніку: зразумелая, вобразная і жывая мова, цікавыя і дынамічныя ілюстрацыі.

Дарэчы, пра ілюстрацыі. Аўтар мастацкага афармлення «Вялікага князя Вітаўта» Аляксандр Прыбылоў сказаў карэспандэнту НАВІНАЎ, што ягоныя малюнкі — гэтаксама, як і тэкст Алеся Краўцэвіча — распрацоўваліся паводле адзінага прынцыпу — гістарычнай дакладнасці. «Я імкнуўся паказаць менавіта такія касцюмы, зброю, даспехі, якія былі ў Беларусі ў XIV—XV стагоддзях, раіўся з навукоўцамі. Я пазбягаю стылізацыі, таму што ўпэўнены — сапраўдная гісторыя не цярпіць няпраўды, нават у простым пераказе для першакласнікаў».

**Ганна СЕНЕШ**



**ЭКСПЕРИМЕНТ**

# Космическая гонка на 10 миллионов

## *Чтобы участвовать в конкурсе, требуется немного — уметь конструировать космические ракеты*

**Вот уже почти два года шестнадцать команд конструкторов со всего мира состязаются, стремясь получить награду в 10 миллионов долларов, получившую название «Премия Икс».**

По условиям конкурса, премия достанется тому, кто соорудит летательный аппарат, способный поднять одного человека на высоту не менее 100 километров и благополучно возвратиться с ним назад. Через неделю полет должен состояться еще раз, дабы подтвердить, что корабль может использоваться неоднократно. По мнению учредителей премии, конкурс должен доказать возможность полета в космос любого человека и тем самым открыть новую эру коммерческих космических полетов.

«Лучший способ предсказать будущее — это создать его самому», — считает Питер Даймэндис, председатель расположенной в Сент-Луисе аэрокосмической фирмы *Angel Technologies*. Эта фирма объявила в мае 1996 г. о начале конкурса, деньги на призы Даймэндис надеется собрать у местных меценатов, поддерживающих проект. «Это великолепная возможность открыть межпланетное пространство для всех людей и изменить давно укоренившееся в общем сознании мнение, что только правительство способно посылать космонавтов в космос», — считает шеф инженерной компании.

Даймэндис надеется, что объявленный им конкурс сделает для освоения космоса то же, что сделала 70 лет назад для развития авиации премия Ортейга в 25 тысяч долларов. Именно эти деньги подтолкнули тогда Чарльза Линдберга на одиночный перелет через Атлантический океан на самолете *Spirit of Saint Louis* в мае 1927 года. Исторический полет Линдберга открыл эру коммерческой авиации, наглядно продемонстрировав людям, что они могут путешествовать в любую точку земного шара по воздуху. То, что «Премия Икс» была тоже основана в Сент-Луисе, не является простым совпадением. Именно в этом городе Линдберг собрал необходимую сумму на свой легендарный перелет из Нью-Йорка во Францию.

Группы конструкторов, желающие принять участие в конкурсе, должны подать свои предложения в организационный комитет, в состав которого входит бывший космонавт Баз Олдрин и другие известные специалисты в области космонавтики. Комитет решает, являются ли представленные проекты достаточно научно обоснованными и безопасными. Проекты, поданные американскими конструкторами, должны пройти экспертизу в Федерации воздухоплавания Америки, которая определит, не будут ли данные полеты представлять опасность для густонаселенных районов страны. По мнению Даймэндиса, из шестнадцати допущенных к конкурсу групп около трети имеет серьезные шансы завоевать приз. Большинство команд выставила Америка, две — Великобритания и по одной — Германия и Аргентина. «Все они выдвинули предложения, полностью основывающиеся на законах физики и механики, — считает Даймэндис. — Уже сегодня некоторые из них продвинулись довольно далеко. Однако я не думаю, что кому-нибудь удастся осуществить полет до 1 января 2000 года». Осуществление проекта обойдется каждой команде от 10 до 80 миллионов долларов. Так что завоевание «Премии Икс» является скорей делом чести, чем фактором финансовой выгоды. Некоторые предложения уже пришлось отклонить из-за их очевидной опасности.

Конкурс привлек внимание нескольких всемирно признанных специалистов в области авиации. В частности, к разработке своей версии индивидуального летательного аппарата приступил Берт Ратан, создатель самолета *Vogager*, совершившего беспосадочный полет вокруг земного шара. Ратан намерен часть пути преодолеть на самолете, а до 100-километровой высоты добираться на ракете. Конструктор считает, что для этого ему не придется создавать очень сложный тип ракеты. По его мнению, конкурс должен помочь открыть космос для новых коммерческих возможностей и инвестиций.

«Однажды люди оглянутся назад и удивятся, почему они не сделали этого раньше. Со всеми миллиардами, затраченными за это время только в США Национальным аэрокосмическим агентством *NASA*, мы все должны были начать летать в космос 20 лет назад. Это будет не намного опасней, чем полеты на первых самолетах», — оптимистически утверждает ветеран авиации Берт Ратан.

*USA Today*

*Подготовил*

**Владимир АБАНИН**

